ISSN 0700 – 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ – Magazine, published quarterly by Liaison Comm. of Byelorussian War Veterans**
***Address: KSBV, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2***

Год 6 | Чэрвень, 1979 | № 2 (14)

## ПАДНЯТЫ РОДНЫ СЬЦЯГ

Ад часу, як "чужак-дзікун крывёю ўпіўся сьвежай" і сотні тысячаў сыноў і дачок Беларусі пакінулі "раськіданыя гнёзды", ды пайшлі на выгнаньне, наш бел-чырвона-белы сьцяг, сымбаль вольнасьці й чысьціні душы беларускага народу, прадаўжае вандраваць па сьвеце. То ён лунае перад ратушай Таронта, то вітае з машты Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, то палошча яго летні ветрык на зьезьдзе беларускае моладзі ў Полацку каля Кліўленду.

А гэтта беларускі сьцяг на вуліцы гораду Нью Брансвік, што ля Нью Ёрку, сёлетнім сакавіковым днём, падчас парады сьцягоў 50-х штатаў, вэтэранскіх і іншых правайсковых фармацыяў. Наш руплівы капітан С. Гутырчык, як і заўсёды, узначальвае сьцяганосную тройку й групу Згуртаваньня Амэрыканска-Беларускіх Вэтэранаў. Сьцягі нясуць: амэрыканскі – В. Дубяга, вэтэранска-беларускі - А. Стагановіч, беларускі нацыянальны – А. Койка. *Здымка А. Сільвановіча.*

# ВЯЛЕЙСКАЯ ТУРМА

Вялейская турма! Побач із наваградзкай, горадзенскай, віленскай, баранавіцкай і беластоцкай, яна была сьветкай не аднэй, а сотняў і тысячаў людзкіх трагэдыяў. За нямецкай акупацыяй яна, побач із менскай, была найжудасьнейшай.

У 1941 г. бальшавікі, уцякаючы, падпалілі яе й яна амаль цалкам згарэла. Застаўся толькі малы арышт зь дзесяцьмі камэрамі: чатырмя вялікімі й шасьцьмі адзіночкамі. Новыя "гаспадары" Беларусі, ня маючы часу будаваць другой турмы, выкарыстоўвалі толькі гэты арышт, называючы яго "новай турмой". Аўтару вось гэтых радкоў давялося прасядзець у ёй блізу году й за гэты час перажыць 18 вялікіх экзэкуцыяў.

Арышты сярод жыхарства вялейскае акругі пачаліся неўзабаве пасьля таго, як прыйшлі Немцы. У кажным мястэчку была мясцовая нямецкая "ортскамандантура", якая праводзіла арышты й экзэкуцыі сама. Калі-ж прыехала нямецкая цывільная ўлада, а зь ёй разам і жандармэрыя, гэтая функцыя перайшла да апошняй.

Трэба зацеміць, што найстрашнейшы тэрор пачаўся месяцаў колькі пасьля, калі ў студзені 1942 г. у Вялейку прыехала СД на чале з унтэрштурмфюрэрам Гравэ (Grave). Пачаліся масавыя арышты сярод жыхарства, а экзэкуцыі адбываліся за 200 мэтраў ад турмы. Асаблівым зьверствам адзначаліся працаўнікі СД: Ганін, Дымпэран, Зыдлер, Якобсон і Шаранговіч.

Дзень або два перад экзэкуцыяй вязьні мусілі самі капаць сабе магільную яму, шырыня, глыбіня й даўжыня якой залежалі ад дапушчальнай колькасьці людзей, што меліся быць расстрэленыя.

На пачатку свае дзейнасьці вялейскае СД брала на экзэкуцыю толькі з турмы, пасьля, асабліва-ж у канцы 1942 году, расстрэлы адбываліся ў сёлах або мястэчках, там, дзе былі схопленыя "вінавайцы".

У ліпені 1942 г. быў створаны пры вялейскім СД "сьледчы адзьдзел" ці "беларускі адзьдзел", на чале якога стануў Расеец, белагвардзейскі палкоўнік Вячаслаў Перамыкін. Тэрор, дзякуючы Перамыкіну й ягоным агентам (на вялікі сорам, трэба прызнацца, і нясьведамым або абруселым Беларусам) яшчэ больш павялічыўся. Пачалося масавае паленьне сёлаў і перапоўнілася вялейская турма.

Вось колькі дадзеных за 1943 год: турма была аблічана на 60–70 чалавек, сярэдня-ж у ёй было да 200. У часе экзэкуцыі 14 лютага 1943 г. было расстрэлена 58 асоб, 13 сакавіка таго-ж году – 47 чалавек. Адна з найстрашнейшых экзэкуцыяў адбылася 4 красавіка, калі загінула больш за 70 чалавек, пераважна сялянаў з маладэчынскага павету. 11-га красавіка, за спробу ўцёкаў з турмы, расстралялі 18 чалавек, між іх пастыра эвангельскае царквы баптыстых Нядзьвецкага з Радашкавіч. 17-га красавіка дадаткова, з тэй самай прычыны, зьліквідавалі 7 чалавек, а 10 травеня расстралялі каля 50 чалавек.

У другой палове травеня ў турме зьявіўся плямісты тыфус. Тады начальнік СД загадаў усіх хворых расстраляць, а здаровым зрабіць дэзынфэкцыю. Гэтак 22 травеня загінула каля 80 чалавек.

Перамыкінавы агенты, дастаўшы гадавік беларускай савецкай газэты "Сялянская газэта", што выходзіла за бальшавіцкіх часоў у Вялейцы, нумар па нумары пераглядалі яе й выпісвалі прозьвішчы й адрасы людзей, якія або пісалі ў газэту, або пра якіх газэта добра адзывалася. Сьпісы пасьля йшлі да Перамыкіна, а той праводзіў арышты. У ліпені 1943 году ў вялейскай турме загінула каля 80 ахвяраў гэтае акцыі, а між іх Нарковіч, Пястун, Каляда, Сіротка, Верамей і настаўнік Баслык.

У жнівені адбылася, пад кіраўніцтвам К. Касяка й П. Саўчыца так зв. "валожынская акцыя СД", у часе якой каля 60 чалавек было расстрэлена на месцы, а гэтулькі-ж прывезена ў турму.

17 верасьня адбылася найбольшая за маімі часамі экзэкуцыя. Загінула каля 100 чалавек, у ліку іх два рыма-каталіцкія ксяндзы з "валожынскае акцыі" ды былы заступнік народнага камісара камунальнае гаспадаркі Летувіскае ССР інж. Анатоль Гродніцкі.

4-га лістапада былі публічна павешаныя два вязьні вялейскае турмы Пётра Маліноўскі й Леанід Жоўтка, вучні вялейскае настаўніцкае сэмінарыі. Гэта была рэпрэсія за выбух бомбы ў сэмінарскім будынку, які меўся быць апарожнены для войска. Вешаў Латыш Якобсон.

У лістападзе блізу 200 вязьняў былі вывезеныя сьпярша ў Менск (лягер пры вуліцы Шырокай), а адтуль у нямецкі канцлягер Асьвянцім. Ужо ў першым месяцы лягеру памерлі: Мікалай Гулевіч, Юстын Альфер, Гайлевіч, Мамай, Сіманаў, Сьцяпан Радзевіч, Гудоўскі, Залескі, Паўлоўскі (з Будслава).

Як апавядаюць мае малодшыя сябры па камэры, якіх я спаткаў пасьля вайны, экзэкуцыі ў 1944 годзе былі вельмі частыя. 4-га ліпеня 1944 году каля 200 чалавек СД выгнала на могілкі і ўсіх расстраляла, уцякаючы перад бальшавіцкім наступам.

Пішучы пра вялейскую турму й ейных "жыхароў", нельга ня ўспомніць некаторых выдатнейшых людзей, якія або нейкі час у ёй прабывалі, або закончылі там жыцьцё.

Пра сьв. пам. Пётру Родзевіча было ўжо даволі напісана ў іншым месцы. Сьв. пам. Аляксандар Галяк начальнік радашкавіцкага павету быў арыштаваны ў ліпені 1943 г. за перахоўваньне Жыдоў. Тры месяцы прасядзеў у адзіночнай камэры, дзе абставіны былі наагул немагчымыя. Дзякуючы шчасьцю, выйшаў з турмы, але ўсё перажытае там так падзеіла на яго здароўе, што неўзабаве памёр.

Іван Сініцкі (запраўднае прозьвішча няведамае), Расеец, быўшы начальнік паліцыі радашкавіцкага павету, пазьней начальнік павету ў Вялейцы. Працаваў, нібы, перад вайной у штрафным батальёне пры пабудове аэрадрому ў Аўгустове. Ягоная жонка, падпіўшы, сказала, што ён быў вельмі вялікім чалавекам у НКВД. СД яго арыштавала, да ўсяго прызнаўся й яго расстралялі.

Віктар Уневіч, ротмістр польскае кавалерыі, начальнік маладэчынскага павету, паходзіў з Пархвенава,

вялікі прыяцель д-ра Ермачэнкі, валодаў прыгожай беларускай мовай, займаўся галоўна вялікай спэкуляцыяй. Злоўлены на мяжы Генэральнай Губэрні, меў у цяжкой аўтамашыне поўна рознага дабра. Прывязьлі яго ў Вялейку й хутка там зьліквідавалі. Пацягнуў за сабой і свайго заступніка Вітальда Бурачэўскага, б. рэфэрэнта бясьпекі вялейскага павету за польскіх часоў. Бурачэўскі, як Уневіч, знаў вельмі добра беларускую мову й за нямецкіх часоў ніякай шкоднай антыбеларускай акцыі ня вёў. Усе спробы беларускага актыву выратаваць Бурачэўскага засталіся бяз рэзультату.

Матрос, войт куранецкай воласьці, б. капітан аўстрыйскай арміі ў 1-ю Сусьветную вайну, Паляк (фольксдойч) страшэнна ненавідзеў Беларусаў, арыштаваны, дзякуючы агенту Зыдлеру, расстрэлены.

Кс. Чаплоўскі з Жодзішак, страшэнны польскі шавіністы, арганізатар польскага падпольля. Арыштаваны пасьля нападу польскай банды АК на Жодзішкі ў жнівені 1943 году й хутка расстрэлены.

Аляксандар Сабалеўскі, настаўнік, былы дэпутат Вярхоўнага Савету БССР, арыштаваны польскай паліцыяй у Валожыне ў кастрычніку 1941 г. й адвезены ў Вялейку. На пастою ў Маладэчне бажыўся ніжэй падпісанаму: – Братка, ты ведаеш сам, я камуністым ніколі ня быў... Быць дэпутатам змусілі злыдні-бальшавікі, адмовіцца ня мог, баяўся за сябе й бацьку-кулака. Ратуй, век не забуду ды буду інфармаваць аб усім і ўсіх.

Мы былі з аднэй мясцовасьці, я знаў добра ўсю ягоную радню. Звольнены пасьля месяца турмы на маю інтэрвэнцыю ў шэфа жандармэрыі Новака, Сабалеўскі сядзеў ціха, у партызаны не пайшоў, але пасьля вайны адудзячыўся ніжэй падпісанаму, пішучы на яго розныя пашквілі ў "Голасе Радзімы".

Праваслаўны сьвятар Мікалай Лапіцкі прабыў у вялейскай турме адзін тыдзень. Яго "накрыла" на спэкуляцыі польская паліцыя. Ён гандляваў швейнымі машынамі, патэфонамі, мануфактурай. Усё прывозіў у грузавых аўтамашынах зь Менску ў Іжу й там адкрыта прадаваў. На маю інтэрвэнцыю ў згаданага Новака быў звольнены, даўшы мне слова, што кіне спэкуляцыю. Ён яе аднак ня кінуў, вёў далей але ў меншым маштабе. Калі пасьля вайны ніжэй падпісаны быў старшынёй Лігі Беларускіх Палітычных Вязьняў, Лапіцкаму захацелася мець пасьветку, што ён быў палітычны праcьледаваны й сядзеў у Вялейцы ў турме. Зусім зразумела, пасьветкі не атрымаў.

За звальненьне з турмы адудзячыўся тым, што пазьней публічна распаўсюджваў весткі, што ніжэй падпісаны сядзеў у нямецкіх канцэнтрацыйных лягерах як крыміналісты.

*А. Калодка*

---

***ЦІ АДНАВІЎ ТЫ ПАДПІСКУ НА "ЗВАЖАЙ"?***

## *БЕССАРОМНАЯ ІЛЖА*

Пасьля Другой Сусьветнай вайны ў савецкай прэсе было поўна матар'ялаў пра гэраізм савецкіх партызанаў ды пра іхныя ваенныя здабычы. Ну што-ж, папера ўсё, як той казаў, сьцерпіць.

У першым томе Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі на бач. 11-й ёсьць кароткая зацемка аб вёсцы Абадоўцы, Ільлянскага сельсавету, Вялейскага раёну. Перад Другой Сусьветнай вайной Абадоўцы ня былі вёскай але маёнткам, пры якім было толькі некалькі хатаў тых, якія ў ім працавалі. Цяпер Абадоўцы ёсьць цэнтрам саўгасу "Асьцюковічы", маюць 103 двары, 436 жыхароў, ёсьць там васьмігадовая школа, клюб, бібліятэка, дзіцячы сад, крама. У "айчынную" вайну ў раёне Абадоўцаў дзейнічаў, – кажа БелСЭ, – партызанскі атрад імя Варашылава. 14.3.1944 партызаны разграмілі варожы гарнізон.

Гэта і ўсё. Нічога няма пра гэраічныя чыны "народных мсьціўцаў", нічога пра ваенныя здабычы. "Варожы гарнізон" – абаронны пункт у Абадоўцах складаўся толькі з 23-х чалавек. Беларуская паліцыя абароннага пункту Абадоўцаў з пазьнейшай дапамогай паліцыі з Ільлі далі добрую навуку партызанам.

А было гэта вось так. Вясной 1944 г. адзьдзел імя Варашылава атрымаў загад зьліквідаваць абаронны пункт Абадоўцы. Уночы 14.3. 1944 г. партызаны, з дапамогай радыёнаўцаў, падпалілі недалёка ад маёнтку некалькі хатаў, спадзяючыся, мабыць, "выкурыць" паліцыянтаў. Калі гэта не ўдалося, дык пад прыкрыццём дыму, зь дзікім ровам "за Сталіна, за родзіну", рынулася на абаронны пункт. Беларуская паліцыя заняла пазыцыі ды пачала адбіваць партызанскія атакі Ня гледзячы на тое што партызанаў было вельмі шмат, былі яны добра ўзброеныя, мелі навет малую гармату, беларуская паліцыя заўзята баранілася. Барацьба была няроўная й няведама які быў-бы ейны вынік, каб не падасьпела дапамога ільлянскай беларускай паліцыі. Начальнік апошняй, бачачы полымя пажару, ды чуючы гарматнія стрэлы, выслаў у напрамку Абадоўцаў "паляўнічы зьвяз" у складзе якіх 25-30 чалавек.

Гэты зьвяз хуткім тэмпам памаршыраваў на Абадоўцы, у маршы наткнуўся на партызанскую заднюю ахову, разьбіў яе й баявым ланцугом павёў атаку на галоўныя сілы партызанаў. Апошнія, чуючы ззаду стрэлы, з крыкам "удзірай, фашысты наступаюць!", у паніцы пачалі ўцякаць у кірунку лесу. За сабой пакінулі забітых, што ня ўсьпелі забраць, чатырох чалавек у нямецкіх мундзірах. Колькі партызанаў было забітых ці параненых, дакладна няведама бо, як правіла, яны іх ладавалі на вазы ды хутка ўцякалі. Гэтых чатырох ня ўсьпелі забраць.

Зь беларускай паліцыі быў забіты толькі адзін чалавек. Як гэта сталася, што да зубоў узброеныя партызаны слаўнага адзьдзелу Варашылава (што за сорам!), шмат, шмат разоў колькасна перавышаючы "варожы гарнізон", мусілі ў паніцы ўцякаць? Партызанам не хапала адвагі ўступіць у вадкрыты бой зь беларускай паліцыяй. Яны былі майстрамі ў рабаваньні беларускіх сялянаў, нападах на малыя паліцыйныя пастарункі, мардаваньні сем'яў паліцыянтаў і працаўнікоў адміністрацыі ды духоўнікаў абодвых веравызнаньняў. Ідучы

на рабунак, яны ў першай лініі заўсёды гналі сялян, або перабежчыкаў (радыёнаўцаў), узятых у палон паліцыянтаў, у другой лініі йшлі савецкія парашутысты, прафэсійныя вайскоўцы, у трэцяй – палітпэрсанал (паіткамісары й палітрукі) а ззаду ехалі фурманкі, на якія, калі нарабавалі, ладавалі дабро, а калі мелі апаразу, на іх ладавалі раненых і забітых. Ані забітых, ані раненых не пакідалі, хіба выняткова.

### Партызанскі напад на Ільлю.

Гэта было 13-га студзеня 1943 году. Канчаўся год паводля старога, юльлянскага стылю. Насельніцтва Ільлі ў аграмаднай бальшыні праваслаўнае. Як-жа не спаткаць "праваслаўны, стары" новы год? Правялі стары, спаткалі новы, самагонкі хапала, было аднак спакойна, ніякіх авантураў. У раённай камандантуры паліцыі на раньні засталося толькі некалькі паліцыянтаў "на ўсялякі выпадак".

Гэтага было толькі й трэба партызанам. Вялікі партызанскі адзьдзел распачаў атакаваць Ільлю. Ня трэба было доўга чакаць, кажны паліцыянт сьпяшаўся ў кірунку раённай камандантуры. Распачалася, здавалася безнадзейная абарона гораду. Партызаны й гэтым разам былі да зубоў узброеныя.

Тымчасам камандант пастарунку беларускае паліцыі ў Вязыні (5-6 км ад Ільлі), пачуўшы стрэлы, узяў з сабой 16 чалавек паліцыі ды кінуўся на ратунак Ільлі. Пачуўшы ззаду стрэлы, партызаны кінуліся адступаць. Вязынская і ільлянская беларуская паліцыя ўшчэнт разьбіла й зьліквідавала заднюю абарону партызанаў (10 чалавек). Між іншымі забілі й палітрука, пры якім знайшлі апэрацыйныя карты, пляны, наган, забралі ў палон двух партызанаў з бальшавіцкага дэсанту, здабылі зброю, у тым ліку цяжкі кулямёт Максім, адну фінку, некалькі наганаў. Быў цяжка паранены адзін беларускі паліцыянт, які на трэці дзень, дзякуючы адсутнасьці мэдычнай помачы, памёр.

У часе нападу на Ільлю "варожы гарнізон" – беларуская паліцыя – меў толькі 30 чалавек, а партызанаў было, як некаторыя сьцьвярджаюць, 10 разоў больш.

### Партызаны.

Тая-ж Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя ўспамінае досыць коратка аб гэтак званым маладэчынскім лягеры сьмерці (сталяг 342), дзе Немцы загубілі больш як 33 тысячы ваеннапалонных. Вось-жа варункі жыцьця ў гэным лягеры былі ўзапраўды жудасныя. Гэта было добра ведама жыхаром Маладэчана. Беларускі актыў ужо ў 1941 годзе стараўся адшукаць там Беларусаў ды стараўся перад нямецкімі ўладамі, каб тыя іх звольнілі, што вельмі часта ўдавалася. Гэткім чынам была звольненая нейкая колькасьць інтэлігенцыі з вышэйшай асьветай. На жаль, як пазьней выявілася, шматлікія зь іх у канцы 1942 году, дзякуючы, відаць, бальшавіцкаму шантажу, навязалі лучнасьць або проста пайшлі ў партызаны.

Вестка аб жудасных абставінах у маладэчынскім абозе хутка разьняслася далёка й шырака ў вялейскай акрузе. У Беларусаў заўсёды было добрае сэрца. Яны не маглі абыякава глядзець на гора й мукі іншых. Ад беларускае грамадзкасьці была зложаная каманданту просьба, каб дазволіў сялянам браць з абозу работнікаў на гаспадаркі. Камандант згадзіўся, але зажадаў, каб селянін, які згаджаецца ўзяць ваеннапалоннага, забавязаўся, што ён будзе пільнаваць, каб палонны нікуды не аддаляўся й раз на тыдзень каб мэльдаваўся або ў паліцыі або ў вясковага старасты (солтыса). Такім чынам вялізная колькасьць палонных апынулася ў беларускіх вёсках і хутарох. Палонныя не атрымоўвалі грошай, але былі адзетыя й сытыя. Вясной 1942 году бальшавікі пачалі ськідаць у лясох свае дэсанты, у некаторых лясох перахоўваліся празь зіму савецкія афіцэры, пачаліся тварыцца малыя бальшавіцкія партызанскія адзьдзелы.

Партызаны перш за ўсё зьвярнулі ўвагу на былых палонных, якія жылі спакойна й задаволена ў вёсках. Ім было загадана йсьці ў партызаны, а тым, якія на гэта не згадзіліся, пагражала сьмерць. Былі выпадкі, калі непаслухмянага стралялі, або адсякалі галаву. Калі пра гэта даведаліся Немцы, дык, ня хочачы палонных вяртаць у маладэчынскі абоз, пачалі іх адсылаць Нямеччыну на працу. Але гэтая акцыя была павольнай тымчасам партызанскія кадры рабілі на палонных ціск, каб тыя ішлі ў лес. І многія пайшлі.

Іншая была тактыка партызанскае кадры ў адносінах да беларускага сялянства. У вёсках каля шасы ці тракту партызаны сьпілоўвалі тэлефонныя слупы, а ў вёсцы ля чыгункі, якую ўзрывалася, падкідалі частку рэек, раськідалі па дарозе недалёка вёсак або ў вёсках бальшавіцкія лістоўкі й газэты. Адначасна нейкім спосабам паведамлялася жандармэрыю ці гэстапо. Былі перадусім падазроныя тыя вяскоўцы, якія за часоў польскіх або пасьля "вызваленьня" праяўлялі нейкую актыўнасьць. Калі іх адразу не арыштавалі дык мусілі як найхутчэй уцякаць у лес. Пра адзін такі выпадак хутка чулі па ўсім раёне.

Тыя, што ня былі пэўныя ці ў выпадку бальшавіцкага шантажу будуць арыштаваныя ці не, загадзя ўцякалі ў лес, ня мелі аднак даверу ў паліткамісараў. Падчас нападаў іх заўсёды пасылалі ў першую лінію.

Частка беларускае інтэлігенцыі, асабліва тая, што па "вызваленьні" працавала ў розных бальшавіцкіх установах, была змушаная шантажам і пагрозамі выконваць ролю лучнікаў, інфарматараў партызанскіх адзьдзелаў. Гэта, між іншым, было ў беларускім сярэднім школьніцтве (Вялейка, Маладэчана) ды ў некаторых раённых управах. Асабліва ў цяжкіх абставінах паміж молатам і кавадлам, апынуліся беларускія вясковыя настаўнікі. Але гэта зусім іншая тэма, да якой мо калісь вярнуся.

У маладэчынскім лягеры сьмерці загінула, – веру БелСЭ, – звыш 33 тысяч палонных. За гэта нейкую прынамся частку віны, апроч Немцаў, нясуць партызанскія паліткамісары, якія гвалтам змушалі палонных што працавалі па вёсках, ісьці ў лес і гэтым спынілі акцыю Немцаў – пушчаньне палонных на працу ў сялян. Нічога пра гэта ў БелСЭ няма, як няма і пра гэтак званую "мабілізацыю" ў шматлікіх мясцовасьцях беларускае моладзі ў партызаны. Гэтак, для прыкладу, быў каля Радашкавіч "змабілізаваны" Славік Тарашкевіч, сын Бранісла ва Тарашкевіча, ведамага беларускага дзеяча. Хутка пасьля "мабілізацыі" загінуў. Меў усяго 17 ці 18 год.

***П. Вялейскі***

# ВАРОЖЫЯ ПРАВАКАЦЫІ Ў СЛОНІМЕ Ў 1943-м ГОДЗЕ.

Слонім заўсёды быў вынятковым ня толькі ў геаграфічным палажэньні, але і ў гістарычным жыцьці нашага народу. Ен заўсёды стаяў на фроньце ўсякіх зьменаў, як калісьці, гэтак і падчас нацыянальнага адраджэньня 19-20 ст.ст. Падчас Першае й Другое сусьветных войнаў у Слоніме й ваколіцах шмат чаго цікавага адбывалася. На жаль і дагэтуль не знайшлося нікога, хто-б сабраў і храналягічна ўпарадкаваў важныя падзеі датычныя Слоніму ды падаў іх зь беларускага пункту гледжаньня.

Нашы калішнія й цяперашнія акупанты раней намагаліся даводзіць і цяпер трубяць пра тое, што Слонім і Слонімшчына, з усім ейным насельніцтвам, належыць да іх, значыцца ёсьць іхны край, поўны патрыятызму ці то да Польшчы ці Расеі, а цяпер, ведама-ж, СССР, бо амаль на кажным кілямэтры зямлі слонімскай стаяць помнікі савецкаму байцу ці партызану. Масква гэтак хоча паказаць, што Беларусь так палюбіла яе дыктатуру, што бачыце, людзі жыцьцё за яе супраць гітлераўскае акупацыі аддавалі, каб да маскоўскае "турмы народаў" вярнуцца. На шчасьце, фальсыфікатары праўды схаваць не маглі, бо амаль на ўсіх помніках фігуруюць чужыя прозьвішчы. Гэта даказвае, што Масква панявольвала Беларусь рукамі азіятаў так, як і раней, у 1918-20-х гадох розныя кнорыны, мясьніковы і гаі крывавілі наш народ а пасьля сібірскімі манго243лямі разгрэмілі Слуцкае паўстаньне.

Хачу тут спамянуць падзеі ў Слоніме з 1943-га году, якім і даў вышэйпастаўлены загаловак. Савецкія прапагандысты хвальшуюць гэтыя падзеі ў кнізе "В принемонских лесох", выд. "Беларусь", 1975 г., у якой як спамянуў, шмат чужых прозьвішчаў, а беларускіх найменш. Ды тую правакацыю зрабілі тыя чужынцы, пра што й сьветчу як той, каторы там тады быў, хоць і не належаў да сьледчага адзьдзелу СД.

Усім Беларусам ведама, што ў слонімскай акрузе падчас нямецкае акупацыі 1941-44 г. найлепш пульсавала беларускае жыцьцё, асабліва-ж у Слоніме, аб чым і Масква добра ведала. Ува ўсіх выданьнях беларускіх газэт падаваліся весткі із Слоніма аб школьным жыцьці, культурным згуртаваньні, самапомачы, царкоўным жыцьці, самаахове, СБМ і БКА. Навет баранавіцкая радыёстанцыя ставіла Слонім у прыклад усім іншым гарадом і акругам акупаванай Беларусі.

Масква пастанавіла нейкім чынам справакаваць гнеў акупантаў Немцаў і выкарыстаць правакацыю для папаўненьня свае партызанкі. Найбольш не давала ёй супакою БКА, што запоўніла казармы, каб стрымаць бальшавіцкую партызанку й ня даць Немцам прычынаў для бынішчэньня беларускага сялянства. У вышэйназванай кнізе падаецца некалькі назоваў савецкай падпольнай прэсы і быццам слонімскую газэту "Вольная праца". Там кажуць, што ўсе яны нібы друкаваліся ў лэсе й пашыраліся між насельніцтва. Праўда, у Слоніме была друкарня й перад вайной і ў часе вайны, але апекаваліся ёю не савецкія актывісты, каб маглі пад носам СД друкаваць сваю прапаганду. Ды і ў лесе, пры пастаянных аблавах, друкарня не магла працаваць. Газэты, відаць, друкаваліся ў Маскве й прывозіліся ў Заходнюю Беларусь самалётамі.

"Вольную працу" пачалі выдаваць у 1939 г. падчас бальшавіцкае акупацыі. Рэдагаваў яе беларускі паэт Міско (А. Іверс). Беларускі актыў хаваў яго ад Немцаў (як-жа не памагчы, гэта-ж беларускі паэт!) аж да часу правакацыі, якая змусіла яго пайсьці ў лес. Зьмясьцілі бальшавікі ў газэце нейкі верш на Р. Астроўскага й падпісалі ягоным прозьвішчам. Калі пачаліся арышты ўжо вызначаных па даносах асобаў, яго не засталі дома. Пачаткам рэпрэсіяў сталася сям'я аднаго жаўнера з БКА, што самавольна пайшоў у вёску й колькі дзён не вяртаўся. Тады дасьледчыкі абвінавацілі яго, што ў казармы прынёс тыя бальшавіцкія газэты й СД накіравала людзей да яго дому, каб арыштаваць яго. Бясспрэчна, яго дома не знайшлі, а карнікі зьнішчылі яго сям'ю й хату. Другой падзеяй былі арышты некалькіх чалавек, на якіх пальцамі паказалі даношчыкі, калі ўгімназіі адзін вучань наклеіў на дошцы антынямецкую афішку.

У міжчасе два расейскія перакладчыкі з СД уцяклі ў лес. Начальнік СД із сваей старожай паехаў у Ліпічанскую пушчу, нібы іх лавіць. Праходзячы праз адну вёску ў пяці кілямэтрах ад Слоніма нехта ў іх стрэліў і забіў яго. Каго-ж вінаваціць? Пачаліся арышты сялян тае вёскі. Былі й іншыя здарэньні (із Стэфай Лыскавец, дырэктарам музэю Новікам). Досыць таго, што ў Слонім з Баранавіч прыехаў вышэйшы начальнік СД і былі прысланыя латыскія пацыфікацыйныя адзьдзелы. Тады спалілі падлесную вёску Акулінава й забілі там 399 сялянаў. У Падгорнай над Шчарай партызаны разьбілі апорны пункт БКА й забілі 27 жаўнераў. Яны напалі на бункеры ў Сасноўцы, а ў Галынцы СД забіла 152 асобы таго мястэчка, бо ў ім сустрэліся адзьдзелы двух акупантаў. Вёску Петралевічы, у якой быў забіты начальнік СД, дзякуючы просьбам беларускага адміністрацыйнага ўраду, СД не спаліла, бо яна стаяла блізка электроўні. Беларусы забавязаліся кажную ноч яе пільнаваць, каб бальшавіцкія дывэрсанты не маглі яе зьнішчыць, у помсту "вока за вока". Арыштаваных мужчын зь яе Немцы вывезьлі дзесь на ўсход акопы капаць, а фронт тады ўжо быў над Дняпром.

Вышэйапісаныя падзеі вельмі й вельмі напалохалі слонімцаў. Ня было вялікае радасьці як прыехаў у Слонім прэзыдэнт БЦР, каб расказаць як ёсьць усё зь беларускай справай. І тут загінула чатырох чалавек, што прыглядаліся натоўпу на рынку з балькону, які абарваўся. 5-га ліпеня 1944 г. шмат каму ўдалося яшчэ спакойна выехаць на чужыну, але цяжка было пераЖыць усё тым слонімцам, што асталіся чакаць бальшавіцкага прыходу й разбойніцкіх бандаў партызанаў. Наслухаўся я пра тое ад навочнага сьветкі, якому пашчасьціла із "савецкага раю" вырвацца на вольнасьць. Але аб гэтым трэба пісаць асобна.

*А. Слонімскі*

---

*ЗЛАЖЫ АХВЯРУ*

*НА "ЗВАЖАЙ"!*

## ІДУЦЬ ЖАЎНЕРЫ БЕЛАРУСЫ

*Словы й музыка П.Звонкага*

I. I -дуць жаў-не-ры Бе-ла- ру-сы праз
вёс- кі,сё-лы,га-ра- ды пе-
ра-ла- маць у- се пры- му-сы, што
нас гня-лі вя-кі-га - ды. Ня-
хай больш во-ра-гі ня сьме-юць сва-
ю нам во-лю на-кі - даць,-сьця-гі Па-
го-ні ўжо ясь- не-юць, іх ру-кі
моц-ны-я дзяр-жаць,ня -моц-ны-я дзяр-
1-7 жаць, дзяр- 8 жаць

Ідуць жаўнеры Беларусы
Празь вёскі, сёлы, гарады
Пераламаць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі-гады

Няхай больш ворагі ня сьмеюць
Сваю нам волю накідаць,–
Сьцягі Пагоні ўжо ясьнеюць,
Іх рукі моцныя дзяржаць,
нямоцныя дзяржаць, дзяржаць.

Зь іх не адзін у вёсцы роднай
Пакінуў любую сваю,
Пагляд яе ў начы халоднай
Яму прыпомніцца ў баю.

Як птушка, думка ў даль нясецца.
Дзе хата родная, дзе плуг.
І ён бясстрашна ўперад рвецца,
Каб біць бандытаў - валацуг.

Ідуць жаўнеры і сьпяваюць,
Дзяўчатам сэрцы б'юць мацней,
Праменьні сонца ў зброі зьзяюць,
Калёны йдуць далей, далей.

А песьня рвецца над палямі:
– Прэч гадаўё з нашай зямлі!
Вы нашу кроў пілі гадамі,
Сьмерць вам, вы век свой аджылі!

Ідуць жаўнеры Беларусы
Празь вёскі сёлы, гарады,
Пераламаць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі - гады.

Сьцяг бел-чырвона-белы вольны
У сэрцы кажнага ізь іх,
Жаўнер Краёвай Абароны
На варце стаў правоў сваіх.

*Узята із "Зборніка песьняў Беларускага Жаўнера", выд. ЗБАВ, Саўт Рывэр, 1975 г.*

## БЯРУЦЦА ЗА ВЫДАНЬНЕ "ЛІТОЎСКАЙ МЭТРЫКІ".

Парыская "Культура", у № 3/378 за 1979 г. падае наступную, надта цікавую для Літоўцаў (Беларусаў) вестку:

"Жыцце Літэрацке" ў Кракаве падае, што гісторыкі польскія й савецкія рыхтуюць супольнае выданьне "Літоўскай Мэтрыкі". "Літоўская Мэтрыка" гэта збор актаў, якія вяла канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага ад першае паловы 15 ст. да другой паловы 18 ст., якія ў сваім часе зрабавала Расея. Цяпер "Мэтрыка" знаходзіцца ў Цантральным Архіве Старых Актаў у Маскве. Абыймае яна каля 500 кнігаў, а выданьне яе патрывае колькі дзясяткаў год. У Інстытуце Гісторыі ПАН паклікана ўжо адпаведную рабочую групу".

Столькі "Культура". Спадзяемся, што ў недалёкай будучыні пачуем больш пра праект выданьня найважнейшых дакумантаў нашай слаўнай калішняй дзяржавы, зрабаваных Маскалямі. Да гэтых дакумантаў, із зразумелых прычынаў, мае прэтэнзіі й Польшча. Адно няпрысутнымі будуць вольныя беларускія навукоўцы й вольны беларускі народ, іхны ўласьнік. Бязумоўна, неўзабаве пачуем пра ўдзел у гэным манумантальным праекце і штосьці з акупаванага Масквой Менску.

## ГЭТЫ ЛЕЙЗАРНЫ СУПЭР-АЎТАМАТ НЕ ПРАМАХНЕ.

Пад такім загалоўкам "Торонто Стар" за 27.4.79 г. зьмяшчае цікавы артыкул пра лейзарны аўтамат.

"Арсэналы агенцыяў утрыманьня парадку й войска атрымалі новую страшную зброю жахлівае сілы й надзвычайнае трапнасьці. Гэта ёсьць лейзарная стрэльба - 22 калібравы аўтамат зь лейзарным прыцэлам. Тыя, што выпрадукавалі яе, гавораць, што калі "замкнеш" прыцэл на аб'ект, немагчыма ня трапіць. Стрэльба амаль ня мае адбою, хаця можа выстраліць 2 100 патронаў у мінуту.

Улады хваляць яе, але баяцца насьледкаў, калі-б стрэльба трапіла ў рукі арганізаваных крыміналістаў ці тэрарыстаў. У апісаньні лейзарнага аўтамату "Саенс дайджэст" за травень так рысуе яго эфэктоўнасьць:

У Форт Лодэрдэйл на Флярыдзе паліцыя наскочыла на харчавую краму як яе рабавалі й два бандыты намагаліся ўцячы ў аўце. Адзін зь іх стрэліў у паліцыянта, які меў лейзарны аўтамат пры сабе. Паліцыянт наставіў лейзарную кропку-прыцэл на дзьверы аўта, націснуў курок і за некалькі сэкунд выстраліў 47 патронаў. Кулі прабілі дзьверы, сядло й 9 зь іх засела ў сэрцы чалавека, усё гэта ў радыюсе сямі сантымэтраў. Пяцьдзесят іншых асколкаў засела ў целе чалавека ад шыі і да раёну ніжэй жывата. Усе кулі трапілі ў аўта. Іншы-ж паліцыянт стрэліў шротам і рассыпаў яго ў шырэйшай prасторы.

Паліцыя хваліць зброю таму, што яна амаль ня мае адбою, можа выладаваць каля 2100 куляў у мінуту й мае проста няведамы да гэтага часу дакладны прыцэл.

Ёсьць і крытыкі, якія баяцца, што нехта можа пастраляць нявінных людзей, кантролю страціўшы. Таксама баяцца, што аўтамат можа трапіць у рукі нялегальных сілаў.

Фабрыкант зброі запэўнівае пра "вялікі ступень бясьпекі", які ўтрымоўваецца, каб запабегчы няшчасьцю. Часьці для зброі гэтай робчцца ў розных мясцох. Кампанія трымае ў сакрэце месцы, дзе робяцца часьці, а таксама фабрыку, дзе складаюць іх. А войска мае вельмі строгія правілы, каб забясьпечыць сваю зброю.

А ўсё-ж вялікай турботай жывуць адказныя за ўтрыманьне лейзарнага аўтамату пад кантроляй".

## ДЛЯ РОЗДУМУ.

Арман Малумян нарадзіўся ў Марсэль у 1928 г. у сям'і Армян уцекачоў. Ваяваў у францускай арміі Леклерка, атрымаў шэсьць узнагарод, якія потым у Ерэване скачфіскавалі бальшавікі. У 1947 годзе ягонага бацьку прафэсара бальшавікі запрасілі вучыць у Ерэван. Там неўзабаве наплявалі на ягоны кантракт і сям'ю "накрылі", а Арман трапіў у канцлягер, адкуль выйшаў у 1956 годзе.

У расейскім часапісе "Континент", № 18, у надзвычайна цікавым артыкуле "Канцэнтрацыйны інтэрнацыянал", ён няміласэрна лупцуе захадніх "левых" палітыкаў, працаўнікоў сродкаў масавае камунікацыі й розных "рэвалюцыянераў".

Перадаём слова Малумяну:

"І вось, спадары, што жывяце гарэньнем для "добрых справаў", седзячы ў выгадненькіх крэслах і круцячы ў пальцах чарку выдатнага каньяку, чаму-ж імгненна высыхаюць вашы пёры й перастаюць дзеіць вашыя сьлёзныя залозы, калі пачынаецца гутарка аб *левых* дыктатурах?

Пры помачы вашай добрадумнай прэсы вам удалося стварыць уражаньне, што Гішпанія была адным вялікім канцлягерам. Праўда, гэта не перашкаджала вам туды на вакацыі езьдзіць. Тое-ж самае было з Грэцыяй чорных палкоўнікаў. А між іншым, гэта-ж былі дыктатуры.

Памірае Франко. Усе чакаюць рэвалюцыі, паважных хваляваньняў. Дык не, усеагульным галасаваньнем гішпанскі народ выказвае давер да караля Гуана Карлёса. Кароль аб'яўляе амнэстыю. Шэсьцьдзесят працэнтаў палітвязьняў звальняецца зь вязьніцаў. Усе чакаюць лікаў. 60% з 683 палітвязьняў. Я кажу й заўсёды буду паўтараць, што 683 — гэта роўна на 683 больш, чым патрэбна. А ўсё-ж — у адзіным лягеры ў раёне Ухты (СССР) было больш палітвязьняў-гішпанцаў, чым палітвязьняў ува ўсей Гішпаніі. У адзіным лягеры ў раёне Пячоры (СССР) было больш палітвязьняў- Грэкаў, чым палітвязьняў ува ўсей Грэцыі.

І ўсе могуць пераканацца: абедзьве гэтыя краіны, Гішпанія й Грэцыя, мірна, без праліцьця крыві сталіся дэмакратычнымі. З прычыны вашай нематы гінуць найлепшыя сыны Расеі, Усходняй Эўропы й Паўдзённаўсходняй Азіі. Вашым патураньнем выслана дарога для Чырвоных брыгадаў. Вы, пэўне, чакалі рэпрэсіяў з боку італьянскіх уладаў, каб атрымаць задаваленьне крычучы пра "нэафашызм". Або ў Зах. Нямеччыне, каб сьцьвердзіць "нэанацызм". Ці-ж не называлі вы кагадзе "нэакалёніялізмам" акцыю францускіх часьцей у Заіры, якая выратавала сотні жыцьцёў людзей? Ганебна займацца палітыканствам на чужой скуры. Вы палітычныя афэрысты, бо, як кажнаму ведама, для вас — "Палітыка? Гэта чужая скура".

*(канец на 8-й бач.)*

## З БАЧЫН БЕСЬПЕРАПЫННАЙ ІЛЖЫ

### ХТО КАГО ВЫКАРМІЎ...

У "Полымі" за сёлетні студзень нехта Стэфан Паптонеў, Баўгарын, расказвае нам як бачыць ён "Беларусь – белую баляду". Прыехаў, відаць, ён сюды ў "камандзіроўку", каб расказаць пра "рэспубліку партызанаў". Пачынае, як ужо заведзена, ад Хатыні й вось ідзе гутарка пра вайну. У вусны свайго шофэра ўкладае такія словы:

– Дакладна тут праходзіў шлях арміі "Цэнтр". Каму пасьля вайны трэба было расказваць пра тое, што мы паражылі? Сабе самому расказваць? Або Эўропе? ***Тым праклятым капіталістам, якія выкармілі арміі "Цэнтр" і кінулі іх на Беларусь?"*** (Курсіў мой, – К.А.)

Вось, вось.

Хто выкарміў арміі "Цэнтр"? Ведаем, хто іх на Маскву накіраваў, але хто выкарміў?

Для беларускіх калгасных прыгоньнікаў, ад якіх партыйныя цівуны й апаратчыкі адбіралі збожжа, малако й мяса, каб высылаць ведамаму "саюзьніку", гэта ня тайна. Зьнямоглыя ад непасільнай працы, церпячы недахоп прадуктаў першае патрэбы, яны сачылі, як маскоўскі "старэйшы брат" адсылаў іхнае дабро ў "саюзную вялікую Гірманію".

Ды паверце, людцы добрыя, партыйныя цэнзары не дагледзелі, як у Паптоневай "бэлядзе" звычайнае шыла зь мяшка вылезла. Вось ён апавядае што адбывалася ў Берасьці даслоўна ў апошніх гадзінах перад выбухам вайны 22-га чэрвеня, 1941-га году:

"Лейтанант Махнач пайшоў у свой пакой. Можна было ўжо й ня спаць да раніцы. На сьвітаньні салаўі сьпяваюць асабліва моцна. Не даюць чалавеку заснуць... *З вакзалу чуліся гудкі цягнікоў.* ***Цяжкія таварнякі ішлі на захад, везьлі жыта ў заходнія краіны.*** Няхай вязуць... А ў тым баку грукочуць машыны. Цягнікі йдуць з моцным грукатаньнем... Грукат мацнее. Ператвараецца ў суцэльны трэск, лязгат... Цягнікі йдуць на цябе... І так горача стала, што цяжка дыхаць. Немагчыма дыхаць. Давайце паветра, паветра давайце. І салаўі змоўклі, гараць іх крылы, і дрэвы зь іхнымі гнёздамі гараць, і паветра гарыць...

Узрыўная хваля выкінула яго з ложка, ён упаў на падлогу і ў той-жа момант прачнуўся. Гарэла ўся казарма. Узрываліся бомбы. Дрэвы ў парку гарэлі разам з салаўінымі гнёздамі. У вокны поўз дым, а ў вароты крэпасьці паўзьлі зялёныя мундзіры фашыстаў"

Чулі? Жыта ***у заходнія краіны*** вязьлі літаральна да першага гарматнага агню, амаль насустрач тым знарадам, якія, між іншым, запалілі пасьля й тыя салаўіныя гнёзды, па якіх аўтараваму гэрою Махначу так ёкае сэрца. Перлі-ж дабро ***не ў заходнія краіны,*** зь якім тады гэны-ж "вялікі гірманскі саюзьнік" ваяваў, а самому гэнаму "саюзьніку". Каб адкарміць яго й ягоную армію "цэнтр".

Ну й выкармілі!

*К. Акула*

### ДЛЯ РОЗДУМУ

(Заканчэньне)

дык гэтае пачуцьцё ператвараецца ў пагарду, калі, як іх арыштуюць, яны выкарыстоўваюць правы гэтага грамадзтва, каб выратаваць свае скуры.

Ніколі ніводзін удзельнік Супраціўленьня часоў акупацыі, ніводзін расейскі партызан не разьлічваў на літасьць нацыстаў. Ніколі Лятувісы, Эстонцы, Латышы, Беларусы, Заходнія Ўкраінцы, што змагаліся за незалежнасьць сваіх краінаў супраць камуністычнага каляніялізму, якія йшлі ў лясы пасьля 1945 году, не чакалі літасьці ад сваіх ворагаў."

*******************************************

### ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 16-га сакавіка да 1-га травеня сёлета на "Зважай" атрымана:

М.Нікан (з продажы) – 20,00 дал., Б. Рагуля – 5,00, К.Акула (з продажы) – 15,00, С. Гутырчык (з продажы) – 22,40, І. Каваленка (з продажы) – 11,20, П. Станкевіч – 2,00.

*Разам – 75,60 дал. Вялікае дзякуй!*




*Магчыма, што амэрыканскі Кангрэс на зацьвердзіць умовы пра абмежаваньне стратэгічнае зброі, якую неўзабаве Вашынгтон мае падпісаць з Масквою.*

***Шмат Амэрыканцаў уважае, што умовы кантролі прадукцыі зброі недастатковыя***

***Гэтак выглядае кантроля згодна "Вашынгтон Стар".***